


ОРГАН БЕЛАРУСКАИ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")
Authorized by EUCOM Hqs Civil Affairs Division, 1. January 1951, Nr. UNDP 225
Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK
Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 5 (84) Нядзеля, 3 лютага 1952 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 6


# Імпэрыялістычныя пасяганьні палякау

Нашая скромная прэса, будучы заабсарбаванай пытаньнямі беларуска-расейскіх дачыненьняў, якія апошнім часам, у сувязі з пробамі мантаваньня супольнага фронту змаганьня з бальшавізмам, сталіся войстра актуальнымі, зусім выпусьціла з поля сваей увагі дачыненьні польска-беларускія, дакладней — імпэрыялістычныя пасяганьні палякаў на заходня-беларускія тэрыторыі.

Тымчасам гэтае пытаньне, якое ніколі ня траціла на актуальнасьці, апошнім часам асабліва завастрылася. Прычынай гэтага зьяўляецца магчымасьць страты Польшчай на карысьць Нямеччыны «зем одзысканых», г. зн. земляў усходняй Нямеччыны, далучаных пасьля апошняй вайны да Польшчы. З усяго таго шуму, які падыймаецца вакол гэтае справы ў польскай прэсе, выглядае нядвузначна, што ў выпадку страты сваіх заходніх тэрыторыяў на карысьць Нямеччыны, палякі з асаблівай настойлівасьцю будуць дамагацца рэкампэнсаты на ўсходзе — коштам Беларусі й Украіны й у гэтым кірунку вядуць ужо сяньня ажыўленую прапаганду.

### ПЕРАСЬЦЯРОГА АНГЕЛЬСКАГА ПАЛІТЫКА

Непасрэднай прычынай апошняга ажыўленьня гэтае прапаганды было выступленьне ў лёнданскім радыё перад Калядамі былага брытанскага міністра ваеннага ўраду Чэрчыля й потым міністра ляйбурыстаўскага ўраду Этлі — сп. Г. Дальтона, прысьвечанае справе рэмілітарызацыі Заходняй Нямеччыны. Восьжа ў сувязі з гэтым былы брытанскі міністар заявіў між іншым наступнае: «Немцы не затойваюць сваіх мэтаў у ўсходняй Эўропе. Стараюцца яны атрымаць вялікія тэрыторыі, сяньня польскія, чэскія й расейскія. Ці могуць гэтага дасягнуць без вайны? Сільна ўзброеная Нямеччына можа быць ахвотным астрыём у блёку супраць Расеі. **Але можа таксама імкнуцца да саюзу з Расеяй,** як і ў 1939 г., **цераз цела Польшчы, разьдзеленай пяты раз,** а супраць нас і Захаду».

Гэтая перасьцярога сп. Г. Дальтона завастрыла ўвагу польскіх эміграцыйных колаў. Польская прэса, бароначы правоў палякаў на землі ўсходня-нямецкія, адначасна ўзмоцніла кампанію за ўключэньне ў склад будучай незалежнай Польшчы Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны, якія яна акупавала да 17 верасьня 1939 г. Спасярод выказваньняў на гэтую тэму польскай эміграцыйнай прэсы, заслугоўваюць на асаблівую ўвагу два артыкулы: артыкул Станіслава Строньскага зь Лёндану, надрукаваны ў газэце, што выходзіць у Нямеччыне, «Остатне Вядомосьці» (тыднёвы дадатак за 20. I. 1952) п. н. «Пяты разьдзел Польшчы», і Станіслава Скшыпэка зь Нью Ёрку п. н. «За новы падыход да справаў Усходніх Земляў», зьмешчаны ў мюнхэнскім «Бюлетэні Польскім» за 1.I.52 г. Абодвы гэтыя артыкулы ўзаемна дапаўняюцца: артыкул сп. Строньскага апіраецца на «аргумэнтах» праўных, а сп. Скшыпэк выцягвае «аргумэнты» й «доказы» із стану фактычнага, які быў на гэтых землях.

Сяньня пакажам усю беспадстаўнасьць аргумэнтаў сп. Строньскага ў карысьць польскіх правоў на нашыя заходнія тэрыторыі, адкладаючы разгляд цьверджаньняў сп. Скшыпэка да аднаго з наступных нумароў «Бацькаўшчыны».

### АРГУМЭНТЫ ПОЛЬСКІХ «МОЦАРСТВОЎЦАЎ»

Сп. Строньскі налічвае чатыры разьдзелы Польшчы, што адбыліся дагэтуль. Тры першыя разьдзелы (1772, 1793 і 1795 г.г.), хоць і самапраўныя, былі аднак усанкцыянаваныя Венскім Кангрэсам 1815 г., увайшлі — паводля аўтара — у міжнароднае права. Чацьвёрты разьдзел, пасьля некалькіх часовых фазаў, замацаваўся ў форме сяньняшняй Польшчы без Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны з мамэнтам заканчэньня апошняй вайны ў 1945 г. Гэты разьдзел, дакладней адыход ад Польшчы беларускіх і украінскіх земяў, зьяўляецца зусім няважным і нікога не забабязваючым, бо ён не ўвайшоў у міжнароднае права — цьвердзіць польскі публіцысты. На пацьверджаньне гэтага прыводзіць ён чатыры наступныя аргумэнты:

1. Сяньняшняе палажэньне Польшчы зьяўляецца вынікам захопніцкай вайны Нямеччыны супраць Польшчы, да якой прылучыўся пазьней і Савецкі Саюз, вайны, пасьля сканчэньня якой ня быў яшчэ дагэтуль заключаны мірны дагавор, што мог-бы ўрэгуляваць усе тэрытарыяльныя зьмены й надаць ім сілу міжнароднага закону.

2. Вялікабрытанія 30 ліпеня 1941 г. у вымене ўрадавых нотаў Ідэн-Сікорскі й ЗША ў урадавым асьветчаньні 31 ліпеня 1941 г. сьцьвердзілі, што не вызнаюць зьменаў тэрыторыяў Польшчы пасьля жнівеня 1939 г. Гэтае асьветчаньне абедзьвюх дзяржаваў ня было пасьля гэтага ніколі адклікане.

3. Атлянтычная Карта з 14.8.1941 г. гарантоўвае ненарушальнасьць тэрыторыяў усіх народаў за выключэньнем варожых у вапошняй вайне дзяржаваў.

4. Зусім беспадстаўнымі й без значэньня зьяўляюцца для польскага аўтара наступныя акты: а) прылучэньне Заходняй Беларуусі й Заходняй Украіны да БССР і УССР на падставе г. зв. народнага галасаваньня насельніцтва гэтых тэрыторыяў 22.10.1939 г. (на Беларусі — народнае сабраньне ў Беластоку), б) пастановы, якія сп. Строньскі называе «паглядамі» й «радамі», але не пастановамі, Рузвэльта, Чэрчыля й Сталіна ў Ялце 12. 2. 1941 г., в) дагавор Масквы з 17. 8. 1945 г. з камуністычным польскім урадам, на моцы якога Польшча зраклася Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны на карысьць БССР і УССР.

Усе гэтыя акты ўважае сп. Строньскі таму ня важныя, бо чужыя дзяржавы ня мелі ніякага права выносіць пастановаў у справе зьмены польскіх тэрыторыяў.

Прыгледзімся цяпер, якая цана ўсім гэтым аргумэнтам.

Перадусім кідаецца ў вочы факт, што аўтар паслугоўваецца толькі тымі аргумэнтамі, якія зьяўляюцца для яго выгаднымі, затое старанна замоўчвае ўсё тое, што магло-б пярэчыць ягоным дамаганьням. Мерадайнымі й вырашальнымі для яго аргумэнтамі зьяўляецца фармальная правамоцнасьць ці няправамоцнасьць розных урадавых і міжнародных дагавораў і пастановаў. Але фактычны нацыянальны стан гэтых земляў, тое, што яны заселеныя не палякамі, але беларусамі й украінцамі, для яго не адыгрывае ніякае ролі. Для яго гэтыя землі — гэта «Всходня Польска» і толькі. Якія народы іх засяляюць, ён ня ўспомніў ані адным словам.

Тымчасам калі-б навет усе аргумэнты міжнароднага права прамаўлялі бясспрэчна на карысьць палякаў, — што так ня ёсьць — дык і так стан фактычны мае куды большую вагу й значэньне для будучыні, чымсьці асновы праўныя, у дадзеным выпадку поўнасьцю ўжо перастарэлыя. Калі абапёрціся на агульна абавязваючыя сяньня дэмакратычныя прынцыпы й тую-ж Атлянтычную Карту, на якую аднастароньня наклікаецца сп. Строньскі, дык нельга

(Заканчэньне на 4 балоне)

# Перад прэзыдэнцкімі выбарамі у США

### МІЖНАРОДНАЕ ЗНАЧЭНЬНЕ ПРЭЗЫДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ

Найважнейшаю падзеяю ў нутраным палітычным жыцьці ЗША зьяўляюцца выбары прэзыдэнта, што адбываюцца кажныя чатыры гады. Хаця наступныя выбары адбудуцца 4 лістапада сёлета, то ўжо цяпер перадвыбарная акцыя ў Амэрыцы ў поўным разгары, якая прыцьміла й адсунула на задні плян усе іншыя пытаньні нутранай і вонкавай палітыкі.

Доўгі перадвыбарны пэрыяд у ЗША ў мамэнт вострага міжнароднага напружаньня, якое ёсьць сяньня, зьяўляецца бясспрэчна зьявішчам вельмі адмоўным ня толькі для самой Амэрыкі, але й цэлага сьвету. Бо апрача таго, што амэрыканскае грамадзянства, як і палітычныя дзейнікі ЗША, будучы заабсэрбаванымі выбарамі, меншую зьвяртаюць увагу на сусьветныя падзеі, уваходзіць у ігру яшчэ іншы мамэнт: уступаючы прэзыдэнт звычайна стараецца не прадпрыймаць важнейшых палітычных крокаў ані выносіць такіх пастановаў, што зьвязвалі-б новага прэзыдэнта, які будзе выбраны толькі 4 лістапада, а пяройме ўладу аж у студзені 1953 г., г. зн. роўна за год. Такім чынам у вонкавай і нутранай палітыцы ЗША пасьля кажных трох гадоў палітычнай актыўнасьці наступае адзін год далёка пасунатага паралёжу.

Пытаньне, хто ў наступнай кадэнцыі будзе прэзыдэнтам ЗША, мае вялізарнае міжнароднае значэньне. Справа ў тым, што ў ніводнай дзяржаве ў сьвеце прэзыдэнт ня мае такой вялікай палітычнай улады, як у ЗША, які, згодна амэрыканскай канстытуцыі, зьяўляецца фактычным кіраўніком дзяржавы. У той час, калі ўлада, прыкладам, брытанскага караля зьяўляецца сяньня толькі сымбалічнай, улада амэрыканскага прэзыдэнта зьяўляецца фактычнай. А паколькі Амэрыка адыгрывае сяньня кіраўнічую й вядучую ролю ўва ўсім вольным сьвеце, ад будучага прэзыдэнта будзе ў вялікай меры залежыць далейшы лёс сьвету, а ў сяньняшні мамэнт міжнароднага напружаньня будзе залежыць таксама, ці мір яшчэ ўдасца на нейкі час утрымаць шляхам дыпляматычнай ігры й бесканечных збраеньняў, ці наступіць канчальная проба сілаў — вайна. Вось чаму прэзыдэнцкія выбары ў Амэрыцы маюць вялізарнае сусьветнае значэньне.

### ДЗЬВЕ ПАРТЫІ — ДВА КАНКУРЭНТЫ

Змаганьне за месца ў Белым Доме на наступныя чатыры гады разыгрываецца паміж дзьвюмя вядучымі амэрыканскімі партыямі — дэмакратычнай і рэспубліканскай. У Амэрыцы ўжо высказваецца мноства прыпушчэньняў аб перамозе аднэй або другой партыі, бо амэрыканцы наагул любяць гуляць у такога роду прароцтвы. Мы аднак гэтым ня будзем займацца, а насьветлім толькі агульную сытуацыю й тыя шансы, якія мае кажная партыя, бо канчальнага выніку будучых выбараў сяньня ўзапраўды прадбачыць нельга.

Дэмакратычная партыя, што знаходзіцца пры ўладзе ўжо дваццаць год, апошнім часам значна страціла на сваей папулярнасьці галоўна таму, што ў цяперашнім адміністрацыйным апараце, перадусім у падаткавай сыстэме выявілася многа карупцыяў і перакупстваў. На гэтым адрэзку амэрыканскага жыцьця дайшло навет да такіх скандалаў, што прэзыдэнт Труман, каб ратаваць сабскую рэпутацыю, быў змушаны праводзіць чысткі сярод сваіх аднапартыйцаў, якія знаходзіліся на становішчах высокіх адміністрацыйныхураднікаў.

Ня гледзячы на гэта, дэмакратычная партыя мае ўсё-ж такі не малыя шансы перамогі. Яна будзе мець за сабой вялікія масы амэрыканскіх выбіральнікаў. Яна мае вялікія ўплывы сярод работніцкай масы, якая ў 1948 г. перахіліла шалю перамогі на карысьць Трумана. Далей за дэмакратычнага кандыдата будуць галасаваць жыды, якія дыспануюць вялікімі фінансавымі магчымасьцямі, за дэмакратаў будуць галасаваць нэгры, а таксама амэрыканскія каталікі. У Амэрыцы ўвайшло ўжо ў традыцыю, што дэмакратычная партыя зьяўляецца каталіцкай, а рэспубліканская — пратэстанцкай. Уся тая вялізарная часьць амэрыканскага насельніцтва, якая за ўсякую цану жадае ўнікнуць вайны, бясспрэчна аддасьць свае галасы за дэмакратаў, палітыка якіх у дачыненьні да Саветаў зьяўляецца больш умяркаванай і паўстрыманай, чымсьці палітыка рэспубліканцаў.

Хоць цяперашні прэзыдэнт Труман яшчэ афіцыяльна ня выставіў сваей кандыдатуры, усё прамаўляе за тым, што іменна ён будзе галоўным кандыдатам ад дэмакратаў, а можа й адзіным. Таму адзіным, што, апрача яго, дэмакратычная партыя ня мае больш выдатных і папулярных кандыдатаў. Калі-б так сталася, дык і гэта значна павялічвала-б шансы перамогі Трумана. Апрача гэтага, Труман, ня гледзячы на сваіх 67 год, мае не малыя асабістыя задаткі, што здабылі яму шырокую папулярнасьць: гэта чалавек вялікай энэргіі й палітычнага такту.

Слабасьць рэспубліканцаў можа заключацца між іншым у тым, што зь іхнай партыі праўдападобна будзе йсьці да выбараў аж некалькі кандыдатаў, людзей ведамых і папулярных у цэлым сьвеце. Праўда, партыйная канвэнцыя, што адбудзецца ў ліпені ў Чыкаго, выставіць толькі аднаго кандыдата, але гэта не абазначае, што й іншыя ня могуць кандыдаваць.

З рэспубліканскай партыі ўжо дакладна ведамыя дзьве кандыдатуры: сэнатара Тафта й губэрнатара Каліфорніі Варэна. Сэнатар Тафт мае вялікія магчымасьці быць выбраным: ён уважаецца за аднаго з найвыдатнейшых сяньня палітыкаў ЗША. На ягоную некарысьць прамаўляе аднак тая акалічнасьць, што ён ёсьць агульна ведамы, як ізаляцыяністы, які гэты свой ізаляцыянізм пацьвердзіў у нядаўна выдадзенай ім кніжцы «Амэрыканская замежная палітыка». У вапошні мамэнт ён стараецца адыйсьці ад палітыкі ізаляцыянізму, што аднак можа ўважацца толькі за тактычны перадвыбарны ход.

Вельмі паважнай кандыдатурай рэспубліканцаў можа быць генэрал Д. Айзэнгаўэр, які нядаўна асьветчыў, што ён згаджаецца кандыдаваць, але толькі ў тым выпадку, калі высуне ягоную кандыдатуру партыйная канвэнцыя. Ён таксама заявіў, што ў выбарнай акцыі сам непасрэднага ўдзелу браць ня будзе й не пакіне свайго становішча галоўнакамандуючага збройнымі сіламі Атлянтычнага пакту бяз выразнай згоды прэзыдэнта ЗША. Ген. Айзэнгаўэр, або Айк, як яго папулярна называюць у Амэрыцы, цешыцца вялікім даверам і любоўю масаў, як пераможнік у мінулай вайне. Ад рэспубліканцаў мае таксама кандыдаваць губэрнатар Г. Стасэн, а таксама лічацца з магчымасьцю кандыдаваньня генэрала Мэк Артура.

З усіх прагнозаў і прароцтваў аб магчымасьцях перамогі некаторых кандыдатаў, чым перапоўненая сяньня ўся амэрыканская прэса, на ўвагу заслугоўваюць дзьве канцэпцыі. Пайменна, у Амэрыцы агульна ўважаецца, што калі галоўнымі кандыдатамі ад абедзьвюх партыяў будуць Труман — Тафт, тады перамога Трумана бадай што запэўненая. Калі-ж аднак галоўнымі кандыдатамі будуць Труман — Айзэнгаўэр, у гэткім выпадку будзе вельмі праўдападобнай перамога Айзэнгаўэра.

Такія прыпушчэньні не зьяўляюцца пазбаўленымі вялікай праўдападобнасьці. У кажным выпадку трэба згадзіцца з тым, што перамога аднэй або другой партыі ў вялізарнай меры будзе залежыць ад асабістых якасьцяў кандыдатаў.

Калі ходзіць пра ўплывы рэспубліканскай партыі ў народзе, дык яны таксама не малыя. Гэтая партыя галоўна апіраецца на фармарах, сярэдніх прамыслоўцах і гандлярох, на пратэстанцкай царкве, на арганізацыях амэрыканскіх жанчын, а таксама мае яна вялікія ўплывы ў вайсковых колах.

(Заканчэньне на 2 балоне)

# *Ня можа быць «супраць» бяз «за»*

Справа змабілізаваньня паняволеных бальшавізмам народаў на змаганьне супраць расейскага камунізму сталася сяньня войстра актуальнай. Гэтым пытаньнем пачалі ўжо займацца ня толькі паасобныя палітыкі й прыватныя палітычныя паважныя арганізацыі Захаду, але й дзяржаўныя ворганы. Найлепшым гэтага доказам зьяўляецца прынятый 10 кастрычніка м. г. амэрыканскім кангрэсам «Закон пра ўзаемную бясьпечнасьць», на моцы якога адводзіцца зь бюджэту ЗША 100 мільёнаў даляраў на фінансаваньне супрацьбальшавіцкіх рухаў паняволеных народаў па абодвых баках зялезнай заслоны. Доказам гэтага зьяўляюцца таксама намаганьні прыватных амэрыканскіх арганізацыяў ствараць з палітычных прадстаўніцтваў паняволеных народаў супольны фронт змаганьня супраць бальшавізму.

Усе гэтыя палітычныя дзейнікі Захаду, якія заклікаюць нас да змаганьня з бальшавізмам, кідаюць толькі лёзунгі нэгатыўныя — «супраць бальшавізму», не даючы аднак нічога або ў вельмі абмежаванай меры пазытыўнага — «за што?»

Праўда, гэты мамэнт пазытыўны праяўляецца таксама, але ў вельмі недастатковай меры. Нам гавораць, што перамога над Сталінскім рэжымам прынясе нашым народам вызваленьне ад бальшавіцкага зьдзеку, ад эканамічнай эксплёатацыі й калгаснага прыгону, ад тэрору МГБ і г. п. У галіне нацыянальна-палітычнай у сувязі зь няўдалымі спробамі змантаваньня СОНР-у было ў першы раз пастаўленае пытаньне, што нерасейскія народы пасьля зьнішчэньня бальшавізму на падставе народнага плебісцыту вырашаць самі свой будучы лёс, тады, калі ўсе гэтыя народы ўжо ў 1917—18 г. г. гэты свой лёс вырашылі. Пры гэтым нязвычайна вымоўным быў факт, што расейскія эміграцыйныя палітыкі, якія самі запрапанавалі нерасейскім народам такое вырашэньне іхнага будучага лёсу, у створаных бальшавіцкім тэрорам умовах вельмі карыснае для расейцаў, а крыўднае й несправядлівае для нерасейскіх народаў, апошнім часам самі ад гэтае прапановы адмовіліся. Гэтым яны далі ясна да зразуменьня, што аснаўным іхным палітычным «крэдо» зьяўляецца адзіная й непадзельная Расея.

Нас стараюцца ўгаварыць расейцы, а за імі й патрануючыя ім заходнія палітычныя дзейнікі, што першым і аснаўным нашым заданьнем павінна быць зьнішчэньне бальшавізму, пасьля чаго нашая нацыянальная праблема вырашыцца сама сабой так, як зажадае народ. А дзеля гэтага за высоўваньне сяньня нацыянальнай праблемы й бескампрамісовае нашае дамаганьне, каб яна была ўжо цяпер тэарэтычна разьвязанай і гэтае разьвязаньне афіцыяльна загарантаваным, нас абвінавачваюць у вузкім нацыяналізьме, аб які разьбіваюцц ўсе намаганьні стварэньня супольнага фронту змаганьня з бальшавізмам і паралёжуецца самае змаганьне. Але ніхто з аўтарытэтных дзейнікаў Захаду яшчэ не пацьвердзіў, што справа гэтага супольнага фронту якраз разьбіваецца аб імпэрыялістычныя пасяганьні расейцаў на сувэрэнныя правы нерасейскіх народаў.

З другога боку нас заклікаюць да змаганьня з бальшавізмам і за пазытыўныя мэты, але чужыя, якія для паняволеных народаў зьяўляюцца ў канчальным выніку мэтамі таксама нэгатыўнымі. Як асьветчыў сэнатар Тафт, за зялезнай заслонай павінен быць створаны сільны супрацьсавецкі рух, які паможа Захаду выйграць халодную вайну. Аўтар «Закону пра ўзаемную бясьпечнасьць» кангрэсмэн Чарльз Кэрстэн нядаўна на прэсавай канфэрэнцыі, на якой быў і прадстаўнік савецкага агенцтва ТАСС, падаў наступную мэту гэтага закону: «калі мы станоўча будзем дапамагаць людзям з камуністычных краінаў у справе вызваленьня, мы гэтым можам забясьпечыць сусьветны мір, кладучы канец загрозе вайны ў самым ейным зародку».

Такім чынам выйграньне Захадам халоднае вайны й забясьпечаньне ім сусьветнага міру коштам мора крыві па-

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Сьвятло й цені «дыскусыяў» у нацыянальным пытаньні у „Новым Рускім Слове“

**(АД СОБСКАГА КАРЭСПАНДЭНТА ЗЬ НЬЮ-ЁРКУ )**

Апошняя чверць мінулага 1951 году ў эміграцыйнай прэсе ЗША, асабліва расейскай і ўкраінскай, прайшла пад знакам зацятай дыскусыі на «нацыянальныя тэмы». З прычынаў зусім зразумелых, нас беларусаў найбольш цікавіць уяўленьне і разуменьне гэтае складанае праблемы расейскімі эміграцыйнымі коламі.

Асноўныя, найбольш цікавыя мамэнты з гэтых паглядаў, выказаныя ў гэтак званай «дыскусыі», па магчымасьці падаваліся намі з большага ў газэце «Беларус», але таму што «Беларус» выходзіць даволі рэдка, а нашае грамадзянства мусіць быць як мага шырэй паінфармаванае аб сутнасьці занятай пазыцыі нашых суседзяў у дачыненьні да нацыянальнага пытаньня, асабліва тут у Амэрыцы, то не пашкодзіць яшчэ крыхту затрымацца на гэтым пытаньні й на балонах «Бацькаўшчыны», тым больш, што ня ўсе маюць магчымасьць чытаць расейскую эміграцыйную прэсу ЗША.

Пальму пяршынства ў разглядзе ўспомненай праблемы здабыла Нью-Ёркская расейская газэта «Новое Русское Слово», якая манілася падыйсьці да справы быццам-бы аб'ектыўна, бесстаронна і, як цяпер вельмі модна выражацца, «дэмакратычна», бо давала нібы «магчымасьць выказваць свабодна свае пагляды ўсім зацікаўленым, хоць можа зь імі рэдакцыя й не пагаджалася» (гэтак акрэсьліў «дэмакратызм« рэдакцыі, як ён кажа, адзін із дапішчыкаў «НРС» з наступнай сэнтэнцыяй: «цяпер відаць, што **ўсе карты «сэпаратыстых» біты, бо ніводзін зь іх у дыскусыі не пасьмеў выступіць супраць моцных фактаў,** разбіваць іх ня было чым» — (падкрэсьленьне нашае — А. С.).

Калі прыняць гэта за істотны факт і лічыць бязупынныя нападкі расейцаў у сваіх артыкулах у «НРС» на вызвольныя імкненьні паняволеных нерасейскіх народаў, асабліва ўкраінцаў, хоць даставалася й іншым, за рэчовую дыскусыю, то запраўды яна, гэтая «дыскусыя», дзеля г. зв. «сэпаратыстых» і чуць не фашыстых (і гэткія зусім нядвузначныя алюзыі дапушчаліся ў «дыскусыі»), як нас усіх нерасейцаў хрысьцяць «россияне», закончылася ў 1951 г. вельмі сумна. «Сэпаратыстым», бачыце «крыць не чем», яны маўчаць і «агрызаюцца» толькі ў сваіх газэтах, якіх «россияне» ня чытаюць!

Як-жа аднак магла зьявіцца на балонах «НРС» запраўдная думка г. зв. «сэпаратыстага», калі цэлы шэраг зусім рэчовых і ў стрыманым тоне артыкулаў шмат каго із ведамых беларускіх журналістых, у тым ліку й аўтара гэтых радкоў, вандравалі, замест у газэту, у «дэмакратычны» кош «бесстароньняй» рэдакцыі, распачаўшай дыскусыю?

Гэткі-ж самы, пэўне, лёс сустрэў і працы іншых «сэпаратыстых», як украінцаў, казакаў і г. д. Затое, каб выглядала ўсёж-такі «аб'ёктыўна», вельмі ахвоча зьмяшчаліся розныя «лісты» ў рэдакцыю ««украінцаў не-галічан», а навет і «урожэнцев» Галіччыны, але ў дусе «единонеделимства»; было праўда колькі лістоў і ад абураных грубой дэмагогіяй звычайных украінскіх патрыётаў, пісаных не фаховымі журналістымі або гісторыкамі і зьмяшчаныя якраз дзеля таго, каб пазьней высьмейваць за «няведаньне» гісторыі «уважаемых авторов»!

Мала гэтага, на хаду быў спрэпараваны г. зв. «Тымчасовы Выканаўчы Камітэт Украінцаў-Фэдэралістых» з адрасам месца знаходжаньня тым самым, што й рэдакцыя «НРС» (!), які ад часу да часу ў адмысловай рамцы падае ў «НРС» г. зв. «Стороннее сообщение», навет на «малоросийсском наречии» з выхваленьнем «российского народа» й абліваньнем гразьзю ўкраінскіх патрыётаў, але затое з нахабствам «сьцьвярджае», што «Запевняемо, що **ніякого національного поневоленьня з боку російского народу ні ми українці ні інші народи СССР не зазнали» (!)** — (падкрэсьленьне нашае — А. С.).

Але аніводнага паважнага артыкулу з боку нерасейскіх палітыкаў, журналістых, гісторыкаў ня было зьмешчана. Нам могуць запярэчыць, бо меў шырокае поле дзейнасьці ведамы на амэрыканскім грунце дэмагог у прэсе — «малоросс» А. Дікій, але аб ім пазьней.

Дзеля захаваньня аднак запраўды аб'ектыўнасьці, неабходна адцеміць, што, хоць і выказваліся пераважна расейцы або людзі расейскае арыентацыі, было выказана ўсёж-такі колькі даволі рэчовых паглядаў (бо ня ўсе-ж, урэшце, асьлепленыя шавіністычным чадам і маюць мазгі навыварат). Прыкладам, ведамая расейская дзеячка на эміграцыі, сп-ня Е. Кускова ў тым-жа «НРС» ад 18. XI. 51 г. кажа: **«Расея выявіла сьвету страшны воблік бальшавізму, задушыўшы собскімі рукамі слабыя парасткі дэмакрацыі. Гэта ня ёсьць** «прыроднасьць» ня ёсьць **вечная якасьць расейскага чалавека, але прадукт ягонага гістарычнага разьвіцьця, ягонае глыбокае някультурнасьці...** (падкрэсьленьне нашае — А. С.). Расейцы пад эгідай таталітарызму — гэта бальшавікі зьлева, расейцы ў свабодных краінах — бальшавікі справа. Пакажэце нам, дзе-ж вашыя дэмакраты? І наагул ці здольныя расейцы навет у сваіх маленькіх арганізацыях да дэмакратычных паводзінаў? Усюды пануе няпрымірымасьць»...

Вось гэтая менавіта, навет нутраная «няпрымірымасьць» ёсьць аднэй із шматлікіх прычынаў таго, што расейская палітычная эміграцыя ня толькі ня можа й ня хоча зразумець законных і справядлівых імкненьняў паняволеных Расеяй і бальшавізмам народаў, але й ня здолела за ўвесь час стварыць «ні дома, ні ў людзях», як кажуць, і собскай паважнай арганізацыі, зь якой можна было-бы паважна лічыцца й гаварыць.

Аднак, ня гледзячы на аднабаковасьць разгляданай тут дыскусыі, неабходна зацеміць, што навет сам факт распачацьця яе ў расейскай прэсе ёсьць зьявішчам абсалютна дадатнім, бо ён, так ці інакш змушае, навет самых зацятых «адзінанедзялімцаў» усьведаміць сабе, што жыцьцёвых патрэбаў вякамі асыміляваных і русыфікаваных, але незасыміляваных народаў, абыйсьці моўчкі нельга, што нейкае акрэсьленае і пазытыўнае становішча раней ці пазьней тут заняць трэба. Ужо адно толькі голае сьцьверджаньне самога гэтага факту выклікае думку на пошукі шляху выхаду з утворанага штучна тупіка самімі расейцамі.

Што пэўныя спробы шуканьня гэтага выхаду ўжо й цяпер зазначаюцца, сьветчаць колькі артыкулаў у «НРС» ужо ў гэтым 1952 годзе. У вадным зь іх «Аб самаазначэньні нацыянальнасьцяў» («НРС» ад 4. 1. 52) аўтар А. Гуд-ий раіць праблему ўзаемадачыненьняў паміж нацыянальнасьцямі на абшарах СССР пасьля разьбіцьця бальшавізму, з прычыны ейнай складанасьці, разгледзіць шырэй у прэсе.

Ён лічыць, што паасобныя мільённыя народы із собскай тэрыторыяй, гісторыяй і звычаямі, сілком уціснутыя ў межы былой расейскай імпэрыі, называць нацыянальнымі меншасьцямі няправільна. «Да гэтак званых не падрасейскіх народаў назоў «нацмяншыня» не падыйходзіць, ён ёсьць навет паніжаючым», кажа аўтар, а крыху далей, разьбіваючы довады некаторых аб «дапамозе» ў культурным і эканамічным разьвіцьці гэтых народаў, сьцьвярджае:

«Дбаласьць аб далучаных да Расеі краёў і народнасьцяў заключалася ў Валуеўскіх «не было, нет и не будет!», у актыўнай іх русыфікацыі».

У мінулагодніх выступленьнях «НРС» вельмі часта даводзілася чуць тэзу, што толькі «Ўсерасейскі Устаноўчы Сход» (Сабраньне) можа **дараваць** права на аддзяленьне тым мяншыням, патрабаваньні якіх будуць прызнаныя справядлівымі. Адзін-жа з выступаючых — Тімашов лічыў, што навет і гэта можа быць зроблена толькі пасьля высьвятленьня запраўднай волі мяншыняў і пасьля пэўнага часу сумеснага існаваньня ў умовах супакою й свабоды. Апрача гэтага прыхільнікі адзінай і непадзельнай Расеі паказвалі на дзяржаўную пабудову ЗША, як на ўзор дзеля ўсіх нас.

І тое й другое А. Гуд-ий разьбівае наступнымі довадамі: «Калі з паглядамі сп. Тімашова згодныя кіруючыя расейскія арганізацыі, то значыць «нацмяншыням» (падсавецкім народам), што складаюць 50% насельніцтва СССР, застанецца толькі выкарыстаць практыку ЗША і вызваляцца з пад «апекі» із зброяй у руках», адносна-ж падсоўванага ўзору ЗША, то: «Злучаныя Штаты запраўды маюць шматнацыянальнае насельніцтва, але-ж тут выхадцы із розных краёў, перамешаны ў кажным населеным пункце, навет дома. Пры гэтым людзі, што дабраахвотна пакінулі радзіму й выехалі ў ЗША, каб распачаць там новае жыцьцё.

А ў нас кажная «нацмяншыня» мае сваю этнаграфічную тэрыторыю, на якой гэраічна бароніцца ад прымусовых асыміляцыйных экспэрымэнтаў заваёўніка, што запоўніў нашыя гарады (у асноўным) сваімі агентамі, якія паслушна й «недалікатна» ажыцьцяўляюць палітыку й мерапрыемствы гаспадара. А вы хочаце, каб гэткія «гаспадары» ў часе плебісцыту вырашалі сваімі галасамі гістарычны лёс народаў. Што-ж, і гэта «дэмакрацыя»!

Другі-ж аўтар — І. Гольдман, у сваім артыкуле «З пункту гледжаньня нацыяналаў» («НРС» ад 11. 1. 52) гэты славуты канёк «узору ЗША» разьбівае гэтак:

«Расея — шматнацыянальная краіна; кажная нацыянальнасьць імкнецца да самастойнасьці; змаганьне за адзінства Расеі ёсьць змаганьнем супраць свабоды незалежнасьці нацыянальнасьцяў, змаганьне за адмову нацыянальнасьцяў ад палітычнай самабытнасьці.

ЗША — нацыянальна маналітная краіна, ня гледзячы на шматлікасьць моваў і рознае паходжаньне. Кажны прыбываючы дабравольна й свабодна дае абяцаньне ўмацоўваць нацыю, якую ўжо эмігранты стварылі, амэрыканскую нацыю, незалежна ад свайго паходжаньня... Грамадзянская вайна ў ЗША, выкліканая жаданьнем даць свабоду рабом, была змаганьнем супраць расколу адзінай нацыі й за красаваньне свабоды, а не за прымусовы ахоп адным абцугом шматлікіх нацыяў».

Далей І. Гольдман папярэджвае некаторых загаляпаваўшыхся адзінанедзялімцаў, што ўжыцьцё сілы на здушэньне вызвольных нацыянальных рухаў у Расеі ня будзе карыстацца грамадзкай сымпатыяй у сьвеце і хто ведае, ці будзе мець пасьпяховы вынік.

Калі навет і прыпусьціць, разважае ён, што адзінства расейскай дзяржавы будзе захавана, то ці надоўга? Шматнацыянальныя дзяржавы арганічна захоўваюць у сабе фэрмэнт раскладу. Гэтая тэма падмацоўваецца Гольдманам гістарычнымі прыкладамі распаду турэцкай імпэрыі, Аўстра-Вугоршчыны, а сяньня працэсам дэзынтэграцыі Вялікабрытаніі, Галяндыі і некантынэнтальнай Францыі. **«Вызваленьне або разьняволеньне нацыянальнасьцяў сяньня на парадку дзенным сьвету.** Аднаўленьне іхнай незалежнасьці, зварот ім сьведамасьці поўнай раўнавартасьці з усімі іншымі народамі, ёсьць передумовай дзеля інтэграцыі іх у вагульную міжнародную сям'ю, дзеля перабудовы ўсяго сьвету, над чым гэтак б'ецца дэмакрацыя ўсяго сьвету. Ці павінна будучая Расея затрымаць гэты працэс?

Ці хоча будучая Расея абвесьціць сваю салідарнасьць зь іншымі культурнымі народамі ці толькі зьявіцца ў новым абліччы спадкаемніцы бальшавіцкіх уяўленьняў аб расейскай дзяржаўнасьці?» — зьвяртаецца да гора — расейскіх палітыкаў аўтар, які хоча верыць у справядлівасьць сьвету, у лепшыя якасьці й здаровыя пагляды расейскага народу і таму спадзяецца, што «магчыма расейскі народ, пасьля вызваленьня ад бальшавізму, зможа выявіць усе лепшыя якасьці свае душы й вытравіць усе сьляды ідэалёгіі і славутага «Саюзу Рускага Народу» і бальшавіцкага дэспатызму. Але калі меркаваць паводля настрояў расейскай эміграцыі, да гэтага яшчэ далёка».

Што-ж прапануюць абодвы аўтары? Вельмі мала, але без чаго ніякія высокапарныя гутаркі аб «адзінстве змаганьня супраць супольнага ворага» ня маюць сэнсу.

«Пахаваць настырлівы міт «адзінанедзялімства» і шчыра ўключыцца ў блёк падсавецкіх народаў, які тады хутчэй стане рэальнай сілай у змаганьні з бальшавізмам, бо калі расейцы хочуць быць карыснымі ў змаганьні за вызваленьне сваей радзімы ад бальшавізму, то яны павінны ўрэшце ўсьведаміць, што ўсе падсавецкія народы даўно самавызначыліся й ікнуцца да самастойнасьці. ЗША ня зьбіраюцца сілком заганяць іх у «адзінанедзялімую», бо гэта азначае жарты з агнём і пярэчыць духу амэрыканскай дэмакратыі» (А. Гуд-ий).

«Магчыма, што пры будове будучай Расеі й будуць цяжкасьці, але гэтыя цяжкасьці лёгка перамагчы, калі паймо «Вялікай» будзе расшыфравана ў сэнсе велічы духа, думкі, культуры, а ня сілы, насільства, матарыяльных перавагаў» (І. Гольдман).

Патрабаваньні, як бачыце, ніякія, але вельмі зьмястоўныя, людзкія: лічыцца із сваімі партнэрамі, як роўны з роўнымі.

І як-жа дзіка й нахабна на фоне гэтых запраўды людзкіх, культурных па сваёй форме выступленьняў, амаль што ў пяршыню гэтакіх неяк трапіўшых на бачыны «НРС», выглядае слоўная эквілібрыстыка Андрэя Дікого ў ягонай «Дэматратыі й вялікадзяржаўнасьці», што зьявілася ў нумары «НРС» ад 2. 1. 1952 г.

Перадусім ён дэмагагічна разводзіцца аб тым, што «багатая расейская мова мае шмат розных словаў», а сярод гэтых словаў яму здаецца ёсьць такія, якіх у іншых няма, а менавіта — словы «пужальныя». Да іх ён залічае «рэакцыянер», «контррэвалюцыянер», якімі пужалі калісь, а цяпер «вялікадзяржаўнасьць».

І вось А. Дікій прапануе не баяцца «запужваньня» словам «вялікадзяржаўнасьць», бо яно, паводля яго, не такое ўжо страшнае, а ў праціўным выпадку: «можа атрымацца тое, што атрымалася ў 1917 г. пад гіпнозам страху ад слова «контррэвалюцыя». **Тады ўсю Расею захапіла ВКП(б), а цяпер навісла пагроза ня менш страшная — захопу яе праз АБН» (!?)** — (падкрэсьленьне нашае — А. С.).

А. Дікій чалавек вельмі адважны, ён не баіцца гэтых «пужальных» словаў, а толькі АБН, які хоча «захапіць усю Расею», а таму «павінна быць пастаўленая мяжа, мякка выражаючыся, **«даўгацярпеньню» расейскай дэмакрацыі»** (падкрэсьленьне наша — А. С.).

А. Дікій заўсёды выражаецца вельмі «мякка»», ён ня кажа часта, як іншыя — «сэпаратыстыя», а «всякие Бандэры»,

(Заканчэньне на 4 балоне)

---

Так нападаць на дзеўку швыдка, —
Гаворыць дзядзька, бровы хмурыць,
І бальшуноў ён зьлёгка журыць.
Тады і хлопцы тон мяняюць;
Ідуць у лес, крычаць, гукаюць,
Як вучні, вырваўшыся з школы,
І ўсе здаволены й вясёлы —
А дзядзька ўперадзе тралюе
І галаву ўгару ўскідае,
Бярозу добрую шукае
З салодкім сокам, бараву,
Дзе-б бобам кропелькі сачыліся.
Знайшлі бярэзіну, спыніліся.
Залысіў дзядзька дрэва зьлёгка
(Сякерка востра, кара крохка),
Зрабіў заруб, латак прыправіў,
А пад латак гаршчок паставіў.
І соку кропелькі, як сьлёзы,
Як град, пасыпаліся зь бярозы,
Аж шкода нейк было дзярвякі:
Здаваліся ранай тыя знакі;
Адкуль паліўся сок халодны
І пакідаў камель свойродны.

Я помню дзень той. Вечарэла,
Зайшло ўжо сонейка, цямнела.
Агеньчык дзеці раскладалі,
Паленцы, трэсачкі зьбіралі,
І дзядзька, тут-жа, распрануўшысь,
Сядзеў на кукішках, сагнуўшысь.
Прад ім стаяў гаршчок і міска
І кошык з бульбай; тут-жа бліска
Відзён і збан быў паліваны,
Да палавіны ў дол ўкапаны,
Кружочкам шчыльненька накрыты.
— Алеська! скокні, брат, вазьмі ты
У хатцы тарачку на печы!
Ну, варушыся-ж ты, старэчы! —
Наўкол пляменьнікі сядзелі,
На дзядзьку пільна ўсе глядзелі,
Як ён, рукавы закасаўшы,
Па тарцы шоргаў, шапку зьняўшы.
І кажны лёгка дагадаўся,
Што тут сакрэт якісь хаваўся,
Памеркаваўшы, як цікава
Была для хлопцаў гэта справа
І як іх дзядзька завіхаўся.
А хто-б яшчэ мог болей цяміць,
Таму-б адразу прыйшло ў памяць,
Што дзядзька бульбу драў на клёцкі,
Каб згатаваць не паханоцку,
Бо што жанкі? раз што панята,
Ноль — слова нашага ім брата;
Як іх на розум тут ня ставіць,
Яны-ж сваё ўсё права правяць
І робяць так, як і рабілі,
Калі пяшком пад стол хадзілі.
Але вось ён пакажа носа,
Стварэньне вы доўгавалоса,
Калі ён тут пагаспадарыць
І сам ды з сокам клёцкі зварыць!
Вось будзе штука вам, дык штука!
На тое-ж спроба і навука.
А сок быў сьвежы, такі хвацкі,
Такі салодкі, забіяцкі!
Ён быў галоўнаю віною
Таго, што познаю парою
Сядзелі дзеці чарадою
І зь дзядзькі вочак ня спушчалі
І стравы важнае чакалі.
— Эх, — цмокнуў дзядзька: —
наямося? —
Зірнулі хлопцы на Антося
І сьліну ўсе яны глынулі,
Паветра носам зацягнулі.
— Ну, што-ж вы рукі паскладалі?
Ў вагонь-бы трэскі пакідалі.
А то патухне зараз! Жыва! —
Глядзелі хлопцы, як на дзіва.
Як дзядзька, цеста замяшаўшы,
Качаў галушкі, міску ўзяўшы.
А чыгунок, бы пан пузаты,
Кіпіць, пыхціць, шуміць заўзята,
Бо не з вадою ён, а з сокам
Ідзе тут справа ненарокам;
Дзяржыся, браце! І ледзь толькі
Ўзьнялося бульбатачак колькі
Дык дзядзька зараз стаў пакрышку
Ў чыгунчык клёцкі кідаць з лыжкі;
Укіне лыжку, памяшае
Ды зноў другую набірае.
А хлопцы нават паўставалі,
Ў чыгунчык вочы паўстаўлялі,
Глядзяць, ня міргнуць яны вокам:
Эх, мусіць смачны клёцкі з сокам!
— Ну, дзядзька, можа і гатовы? —
Ня сьцерпіў Костусь, мовіў слова.
— Які ты, хлопча, няцярпячка! —
Гаворыць дзядзька на хлапчынку:
Няхай паварацца часінку,
Каб сокам добра праняліся,
Тады, брат, — эх! адно дзяржыся! —
І дзядзька цмокнуў выразьліва,
І хлопцы зноў ждуць цярпліва;
А дзядзька, стоячы, паволі
Памешваў клёцкі. — Ну, даволі! —
Сказаў Антось, і ўсе ўздыхнулі,
Як-бы гару з плячэй сапхнулі
І бліжай к дзядзьку падступіліся.
— Глядзі, мо' ўжо перапарыліся, —
Алесь зазначыў палахліва.
— Ну, —Костусь кажа: — ото дзіва!
Ня бойся: дзядзька лепей знае...
Глядзі, брат, клёцка вунь якая!
А брат ты мой, як булавешка,
Як скуля тая, што ў Дзямешкі! —
І ха-ха-ха! зарагаталі.
— А каб вы, падлы, не даждалі! —
Гаворыць дзядзька, сам сьмяецца,
Аж лыжка з клёцкамі трасецца:
— Ну, языкі параспускалі!
Ня дам вам клёцак і панюхаць! —
І стаў на клёцку дзядзька дзьмухаць,
Пакаштаваць каб было можна,
І ў рот паднесьць асьцярожна.
Замерлі хлопцы, ані зыку:
Мінута важна і вяліка;
Глядзяць на дзядзьку і чакаюць,
І дзядзьку поглядам пытаюць:
«Ну, як? ці смачны? ці салодкі?»
У зубы клёцку, бы ляшчоткі,
Заціснуў дзядзька і губамі
Варушыць борзда, як, часамі,
Трусок ці зайчык над капустай,
Каб лепш дазнацца смаку-густу.
Пацмакаў дзядзька і ўсьміхнуўся,
Зірнуў на хлопцаў, адвярнуўся
І тут, нічога не сказаўшы,
Як плюне дзядзька, пажаваўшы!
Трах у чыгунчык ён нагою!
І так абцёрся ён рукою,
Што губы й нос чырвоны сталі,
І нават вушы затрашчалі.
А хлопцы проста зьбіліся з тропу
І ў нейкім страсе і ў захопу
На дзядзьку — кухара глядзелі,
Як-бы яны аслупянелі.
Быў сьмешны дзядзька тэй часінай
З пустою лыжкаю, з тычынай,
Якою трэскі ён варочаў.
А тут Алесь як зарагоча!
За ім адзін, другі паехаў.
Такіх было тут жартаў, сьмехаў,
Што ўсіх трасло і калаціла
І дзядзьку сьмехам захапіла.
— Ну, дзядзька, як на смак, прызнайся?
— Паскудзтва, брат, і ня пытайся!

(Далей будзе)

